**НАШЫ ЮБІЛЯРЫ**

# ...І ШМАТ ЗРАБІЎ ДЛЯ ДЗЯРЖАВЫ

**25 жніўня споўнілася 75 гадоў вядомаму беларускаму гісторыку, доктару гістарычных навук П. А. СЕЛІВАНАВУ.**

**Панцелеймон Аляксеевіч — выхадзец з Расіі. Нарадзіўся ён у 1919 годзе, у сяле Ірта Ленскага раёну Архангельскай вобласці. Бацькі яго былі служачымі. Там прайшло яго дзяцінства, там ён скончыў у 1935 годзе сярэднюю школу, пасля чаго пачаў працаваць і завочна вучыцца ў педагагічным вучылішчы. Аднак нядоўга давялося яму настаўнічаць — у 1939 годзе Панцелеймона Селіванава прызвалі ў Чырвоную Армію. Не паспеў малады хлопец адслужыць, як пачалася Вялікая Айчынная вайна.**

**З першых дзён вайны П. Селіванаў на фронце. Цяжкімі былі першыя месяцы, але дваццацідвухгадовы юнак з гонарам прайшоў іх. Потым было раненне. Пасля шпіталю — танкавае вучылішча. Затым ізноў фронт, цяпер ужо ён трапіў у 169-ю танкавую (60-ю гвардзейскую) брыгаду 2-га танкавага (8-га гвардзейскага) корпуса. Скончылася вайна. Але Панцелеймон Аляксеевіч не кінуў вайсковую службу. Тры першыя пасляваенныя гады праслужыў у Беларускай Ваеннай Акрузе, далей — вучоба ў Ваенна-палітычнай акадэміі. Пасля яе заканчэння, у 1952 годзе, Селіванаў вяртаецца на Беларусь і служыць палітработнікам у БВА. Але ж вядома, што вайскоўцы не затрымліваюцца доўга на адным месцы. Так і П. А. Селіванаў. У 1956 годзе яго накіроўваюць служыць у Групу Савецкіх Войскаў у Германіі, дзе ён прабыў чатыры гады і дзе завяршылася ягоная вайсковая кар'ера, якой ён аддаў у агульнай колькасці дваццаць гадоў свайго жыцця.**



**Шэсць ордэнаў, шмат медалёў — так былі ацэнены заслугі Панцелеймона Аляксеевіча перад Радзімай.**

**Далейшае жыццё П. А. Селіванава было звязана з працай у Інстытуце гісторыі Акадэміі навук Беларусі. Пачынаў ён малодшым навуковым супрацоўнікам, праз пэўны час ужо ўзначальваў сектар гісторыі Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва. Сваю працу ў інстытуце ён завяршыў у 1991 годзе на пасадзе вядучага навуковага супрацоўніка.**

**Навуковая дзейнасць Панцелеймона Селіванава пачалася з вывучэння гісторыі ваеннага будаўніцтва на Беларусі ў гады грамадзянскай вайны. Яе вынікам з'явілася кандыдацкая дысертацыя, якую пачынаючы вучоны паспяхова абараніў у 1968 годзе.**

**У далейшым навуковыя інтарэсы П. А. Селіванава былі сканцэнтраваны вакол праблемы «Удзел працоўных Беларусі ў абароне Вялікага Кастрычніка». Па ёй Панцелеймон Аляксеевіч напісаў і ў 1974 годзе абараніў доктарскую дысертацыю, падрыхтаваў і апублікаваў шэраг манаграфій: «Ваеннае будаўніцтва ў Беларусі ў перыяд разгрому паходаў Антанты» (1973), «Ваенная дзейнасць Саветаў Беларусі. 1917—1920 гг.» (1980), «Узмацненне тылу Чырвонай Арміі. Дзейнасць Саветаў і рэўкомаў Беларусі (1918—1920 гг.)» (1987) і інш.**

**П. А. Селіванаў прымаў удзел у напісанні грунтоўных калектыўных прац па гісторыі Беларусі, такіх, як «Перамога Савецкай улады на Беларусі» (1967), «Гісторыя Беларускай ССР у пяці тамах» (т. 3, 1973), «Гісторыя Беларускай ССР» (1977) і шэраг іншых. Акрамя гэтага, вынікі навуковых даследаванняў Селіванава апублікаваны ў 8 брашурах, многіх навуковых зборніках, не кажучы ўжо пра перыядычны друк.**

**У час працы ў інстытуце Панцелеймон Аляксеевіч займаўся адначасова і вывучэннем лёсу рэпрэсіраваных палітычных і ваенных дзеячоў Беларусі, вяртаннем іх імён народу. Ім ужо апублікаваны брашуры пра жыццё і дзейнасць наркома земляробства рэспублікі А. С. Славінскага, камандзіра корпуса С. Грыбава, падрыхтаваны рукапіс пра камкора Б. С. Гарбачова.**

**Але не толькі навуковай працы аддаваў увесь свой час Панцелеймон Аляксеевіч. Быў ён і актыўным грамадскім дзеячом. У свой час кіраваў прафсаюзным камітэтам інстытута, на працягу многіх гадоў з'яўляўся членам ваенна-навуковага таварыства пра мінскім акружным Доме афіцэраў.**

**Зараз наш юбіляр адышоў ад вялікіх спраў. Ён шмат зрабіў для дзяржавы, для гістарычнай навукі і зараз знаходзіцца на заслужаным адпачынку. Усе ж, хто ведае Панцелеймона Аляксеевіча Селіванава, жадаюць яму здароўя, шчасця і дабрабыту.**

**М. СМАЛЬЯНІНАЎ,**
старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АНБ.

# «Крызіс, які перажывае зараз уся беларуская навука, закрануў і наш цэнтр»

*(Пачатак на 1-й стар.).*

**...ных праблем машынабудавання і энергетыкі на правах навукова-даследчага інстытута. Асноўнымі накірункамі работы з'яўляюцца фізіка, хімія і тэхналогія тонкіх плёнак і пакрыццяў, а таксама распрацоўка новых метадаў іх нанясення.**

**Базай для стварэння ў 1991 годзе «Плазматэга» сталі лабараторыя фізікі тонкіх плёнак і сектар плазменных паскаральнікаў СКТБ з ДВ Інстытута электронікі. З арганізацыяй самастойнага цэнтра з'явілася магчымасць мабільнага і найбольш поўнага выкарыстання рэсурсаў, свабоднага пошуку накірункаў даследаванняў, а таксама партнёраў для навуковага і навукова-тэхнічнага супрацоўніцтва. Лабараторыі і сектары былі аснашчаны новым вакуумным і аналітычным абсталяваннем, сучаснай сеткавай вылічальнай тэхнікай.**

**Крызіс, які перажывае зараз уся беларуская навука, закрануў і наш цэнтр.**

**Рэзка пагоршылася матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне даследчага працэсу, «пайшлі ў камерцыю» ці паехалі за мяжу некаторыя высокакваліфікаваныя спецыялісты.**

**У гэтых умовах кіраўніцтвам «Плазматэга» была выбрана стратэгія арганізацыі работы па тыпу заходніх даследчых устаноў. Упор быў зроблены на правядзенне комплексных работ па рэзка абмежаванаму колу найбольш перспектыўных фундаментальных і прыкладных навуковых накірункаў, давядзенне вынікаў даследаванняў да стварэння канечнага навуковага прадукта ў выглядзе навукаёмістых тэхналогій і абсталявання як для прамысловасці Беларусі, так і для іншых краін.**

**Зараз шырока праводзяцца тэарэтычныя і эксперыментальныя даследаванні працэсаў атрымання метастабільных фаз новых матэрыялаў у плёначным стане пры выкарыстанні лазернай і плазменай тэхналогій.**

**Дзякуючы работам інжынераў-фізікаў А. У. Селіфанава, В. У. Акуліча, Э. М. Зелянкоўскага і іншых былі створаны унікальныя паскаральнікі для вакуумнага плазменнага асаджэння плёнак у імпульсным рэжыме. Прыкметныя вынікі дала работа вялікай групы фізікаў і тэхнолагаў пад кіраўніцтвам члена-карэспандэнта АНБ доктара тэхнічных навук Э. І. Тачыцкага па стварэнню тэарэтычных асноў фазаўтварэння пры імпульснай кандэнсацыі і па ўжыванню імпульсных паскаральнікаў для сінтэзу плёнак звышцвёрдага алмазападобнага вугляроду, нанясенню умацоўваючых, антыфрыкцыйных і каразійна ўстойлівых пакрыццяў на дэталі машын і інструменты, у тым ліку і медінструменты.**

**Работы цэнтра ў гэтым накірунку атрымалі прызнанне сярод вучоных многіх краін свету. У маі гэтага года «Плазматэг» выступіў ініцыятарам і адным з арганізатараў правядзення ў Мінску міжнароднага сімпозіума, у рабоце якога прынялі ўдзел больш за 150 вучоных з 15 краін. Вядзецца патэнтаванне ў ЗША і іншых дзяржавах ужо запатэнтаванай у Беларусі тэхналогіі атрымання алмазападобных пакрыццяў. З адной з буйнейшых фірм ЗША заключана апцыйнае пагадненне аб продажы ліцэнзіі.**

**У лютым 1994 г. пасля ўсебаковага выпрабавання ўзораў пакрыццяў з алмазападобнага вугляроду ў Цэнтры тэхнічных даследаванняў Фінляндыі VTT падпісаны кантракт на продаж мадэрнізаванага вакуумнага абсталявання і распрацаваную ў ІЦ «Плазматэг» тэхналогію плазменнага нанясення ўзмацняючых пакрыццяў на рэжучы інструмент. Сумесна з гэтым цэнтрам і Фраунгоферскім Інстытутам фізікі функцыянальных матэрыялаў і тэхналогіі пакрыццяў з ФРГ падрыхтавана пагадненне па выкананню сеткавага міжнароднага навуковага праекта па праграме INTAS, які будзе фінансавацца Камісіяй Еўрапейскай супольнасці. У рамках міжнароднага навуковага супрацоўніцтва найбольш цесныя кантакты ІЦ «Плазматэг» наладзіў з даследчай карпарацыяй кампаніі 3М (ЗША). На працягу апошніх трох гадоў вядуцца сумесныя навуковыя даследаванні фізіка-хімічных і эксплуатацыйных уласцівасцей плёнак і пакрыццяў рознага функцыянальнага прызначэння. У канцы чэрвеня ў «Плазматэзе» правёў цыкл даследаванняў па нанясенню алмазападобных плёнак на розныя матэрыялы супрацоўнік гэтай карпарацыі Д. Нэйл.**

**Рыхтуецца шырокае пагадненне з 3М па навукова-тэхнічнаму супрацоўніцтву на кантрактнай аснове з фінансавым забеспячэннем кантракта амерыканскім бокам.**

**Паглыбленню міжнародных навуковых сувязей паслужаць таксама нядаўна падрыхтаваныя праекты па сумеснай з амерыканскімі вучонымі даследчай рабоце ў рамках праграмы аказання дапамогі новым незалежным дзяржавам, фінансуемай урадам ЗША.**

**Будзем спадзявацца, што кіраўніцтва Акадэміі навук ацэніць важкасць праводзімых у «Плазматэзе» работ і не дазволіць, як гэта бывае, загаснуць міжнародным сувязям, з такімі цяжкасцямі наладжаным, будзе садзейнічаць вырашэнню праблем яго развіцця.**

**М. ЧЭКАН,**
кандыдат фізіка-матэматычных навук, вучоны сакратар ІЦ «Плазматэг».

**НА ЗДЫМКУ:** група супрацоўнікаў падчас правядзення даследаванняў па нанясенню алмазападобных плёнак на разнастайныя матэрыялы.

Фота М. БУДЧАНІНА.

# ПАМЯЦІ АКАДЭМІКА У. А. БЕЛАГА



**17 жніўня 1994 г. пасля цяжкага і працяглага захворвання пайшоў з жыцця заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, акадэмік Акадэміі навук Беларусі доктар тэхнічных навук прафесар Уладзімір Аляксеевіч БЕЛЫ.**

**У. А. Белы нарадзіўся 8 чэрвеня 1922 г. у г. Краснадары. Сваю педагагічную і навуковую дзейнасць У. А. Белы пачаў у 1945 г. пасля заканчэння Растоўскага інстытута інжынераў чыгуначнага транспарту. У 1953 г. ён з поспехам скончыў аспірантуру, абараніў кандыдацкую дысертацыю і быў накіраваны ў Гомель для арганізацыі Беларускага інстытута інжынераў чыгуначнага транспарту.**

**У 1959 г. ён арганізаваў і ўзначаліў лабараторыю тэхнічнай механікі. Ім быў сфарміраваны новы навуковы накірунак — механіка металапалімерных сістэм, важнае месца ў якім занялі даследаванні трэння і зносу палімерных матэрыялаў. За кароткі час У. А. Белы вырас у буйнога вучонага, асноўныя навуковыя дасягненні якога тычыліся даследаванняў узаемасувязі надмалекулярнай пабудовы і фрыкцыйных уласцівасцей, механахімічных з'яў і прыроды адгезіі металапалімернага фрыкцыйнага кантакту, рэалогіі фактычнай плошчы касання. Яго шматлікія навуковыя вынікі знайшлі адлюстраванне ў выданых ім манаграфіях, некаторыя з якіх перакладзены за мяжой. Здольнасці глыбокага навуковага даследчыка акадэмік У. А. Белы ўдала спалучаў з практычна-вынаходніцкай дзейнасцю. Ён аўтар больш за 300 вынаходак, ім атрымана некалькі дзесяткаў патэнтаў замежных дзяржаў. Дасягненні заслужанага вынаходніка БССР акадэміка У. А. Белага адзначаны чатырма залатымі медалямі ВДНГ.**

**За гады сваёй навукова-арганізацыйнай дзейнасці акадэмік У. А. Белы стварыў сусветна вядомую навуковую школу ў г. Гомелі — Інстытут механікі металапалімерных сістэм АНБ. Сярод яго вучняў 17 дактароў навук і больш за 50 кандыдатаў, якія працуюць у Беларусі і іншых краінах СНД.**

**У. А. Белы праводзіў вялікую навукова-арганізацыйную работу як галоўны рэдактар усесаюзнага навукова-тэарэтычнага часопіса «Трэнне и знос», як член экспертнага савета ВАК СССР. Таленавіты арганізатар навукі, ён шмат зрабіў на пасадах дырэктара Інстытута металапалімерных сістэм АНБ, рэктара Гомельскага і Белдзяржуніверсітэтаў, віцэ-прэзідэнта АНБ.**

**За шматгадовую плённую дзейнасць У. А. Белы быў узнагароджаны ордэнамі Леніна, Кастрычніцкай рэвалюцыі, Працоўнага Чырвонага Сцяга, ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета БССР.**

**Светлая памяць аб У. А. Белым, таленавітым вучоным, буйным арганізатары навукі, цудоўным чалавеку назаўсёды застанецца ў сэрцах усіх, хто яго ведаў і працаваў разам з ім.**

**А. Р. Лукашэнка, М. І. Грыб, М. М. Чыгір, В. І. Ганчар, Л. М. Сушчэня, М. С. Высоцкі, Р. Г. Гарэцкі, А. М. Ганчарэнка, С. А. Астапчык, Ф. М. Капуцкі, Л. А. Шэметкоў, М. А. Барысевіч, П. І. Яшчарыцын, Ю. М. Плескачэўскі.**

Ужо паўстагоддзя прайшло, але і сёння — толькі прыслухайся — у курапацкім лесе блукае рэха далёкіх стрэлаў, да гэтай пары ляцяць да нас з мінулага распаленыя кулі нкусаўскіх катаў. З пакаяннем прыходзім мы да гэтых магіл.

Даруйце, нявінна забітыя, пакрытыя крывавай зямлёю курапацкага лесу. Даруйце і вы, тыя, хто не дачакаўся вестачкі з турмаў, лагераў, ссылак: пошта з магіл не даходзіць.

Даруйце вы нас, тых, хто жыве сёння на зямлі, расцерзанай коламі «чорных воранаў», падманутай, пастаўленай на калені. Даруйце, што так доўга ідзем да збаўляючага святла праўды.

Пакаяння нашага чакаюць душы забітых, пакаяння патрабуе наша сумленне. Нам каяцца і за тых, хто ў бальшавіцкім шаленстве абылгаў і забіў братоў сваіх.

Доўгі шлях наш да ісціны. Не пералічыць добраахвотных і заказных аратараў, якія імкнуцца пагрэць рукі на ўзвышэнні ці развянчанні курапацкай трагедыі. Але ўсю праўду аб гэтым страшэнным лёсе не ведае ніхто: яе ведае толькі народ.

Углядзіцеся ў твары гэтых людзей. Фатаграфія не зманіць, калі вочы поўныя болю, а агонь памінальнай свечкі не-не ды і блісне адбіткам у навярнуўшайся слязе.

Я сфатаграфаваў чэрап. Акуратная дзірачка ў цэнтры — след кулі, якая абарвала жыццё. Памятаеце евангельскую выяву распяцця на Галгофе? Пад крыжом нашы продкі таксама змяшчалі чэрап. Толькі быў ён без кулявой адмеціны. Куля — гэта з нашага часу.

Гэты беласценны храм — адзін з прапанаваных на конкурс. Задуманы конкурс добра: выбраць лепшы праект і пабудаваць на святой курапацкай зямлі храм нашай памяці і пакаяння, веры і надзеі. Няхай усе канфесіі (сярод расстраляных былі праваслаўныя, каталікі, іудзеі, пратэстанты, баптысты) збіраюцца тут і ўзносяць святую малітву. Богу — малітвы, паўшым — памяць.

Я невыпадкова напісаў спачатку, што кулі ляцяць з мінулага ў сённяшні дзень. Колькі разоў ужо стаяла пытанне на самім існаванні ўрочышча Курапаты. Спачатку па яго брацкім магілам хацелі пусціць бетаніраваную паласу акружной дарогі. Дзякуй праектантам — прыслухаліся да голасу сумлення, перарабілі праект. Потым на залітай крывёю зямлі сабраліся будаваць гаражы ўладальнікі размешчаных непадалёку суперкатэджаў. І ад іх зберaглі святую зямлю. Цяпер вось усе чакаюць пачатку будаўніцтва мемарыялу, грошы на аб'яўлены рахунак уносяць, а размовы пра конкурс праектаў неяк адразу прыціхлі, забывацца сталі нядаўнія гарачыя словы.

Памятайце, людзі добрыя, што ёсць у лесе пад Мінскам Курапаты — адна з многіх спецпляцовак НКУС — месца ганьбы нашай, доўгу і нашага пакаяння.

Яўген ПЯСЕЦКІ.
Фота аўтара.







**ЗА ГІСТАРЫЧНУЮ ПРАЎДУ**

# ДЗЕ НАШЫ КАРАНІ?

Праблема паходжання беларусаў мае вялікую навуковую цікавасць, палітычную вастрыню і актуальнасць. Зараз не заснаванае на надзейных навуковых фактах шырока распаўсюджваецца сцвярджэнне, што «беларусы сфарміраваліся на балцкім субстраце». Яшчэ ў 1963 годзе эмігрантка з Літвы М. Гімбутас надрукавала на англійскай мове кнігу пад назвай «Балты». У ёй змешчана карта лакалізацыі гэтага народа ў межах прыкладна ад сучаснага польскага горада Шчэціна, у вусці Одэра, на беразе Балтыйскага мора, далей на ўсход да Варшавы, Кіева, Харкава, Курска, Масквы і ломанай лініяй па паўночным захадзе Расіі, Латвіі, да Рыжскага заліву. Выказаныя высновы з'яўляюцца глыбока памылковымі, не адпавядаюць навукова-крытычным рэаліям, не базіруюцца на адпаведных крыніцах. Зроблены ўсебаковы аналіз археалагічных крыніц дае падставу сцвярджаць: сказанае мае дэкларатыўны характар, надуманае. Беларусы, таксама як і іншыя славянскія народы — прыбалты, раманцы, германцы, кельты, грэкі, албанцы і многія іншыя насельнікі Еўропы — у далёкім мінулым сфарміраваліся на адзіным субстратным старажытнейшым этнасе — індаеўрапейскім. Гэта даказалі вядомыя даследчыкі-лінгвісты Т. В. Гамкрэлідзе і В. У. Іваноў. Сучасны беларускі народ мае такую ж старажытную гісторыю, як і ўсе вышэйназваныя. І рэальна не адбывалася «асіміляцыі балтаў» у тым аспекце, як гэта афіцыйна лічыцца. Асіміляцыйныя працэсы мелі месца ў многіх мясцінах Еўропы, але гэта было звязана з класавым грамадствам, у эпохі феадалізму-капіталізму, у перыяд пасля прыняцця хрысціянства, адпаведнымі канфесіямі, у выніку дзеянняў «крыжовых паходаў». Добра вядома, што па сваіх светапоглядах індаеўрапейцы з'яўляліся язычнікамі, усе пакланяліся адным і тым жа нябесным свяцілам, сілам прыроды, мелі адзіную міфалогію, адной у іх была і «пастухоўская мова». Па-сутнасці, яны складалі прымітыўную «вандроўна-пастухоўскую дзяржаву». Тыпы такіх дзяржаў у стэпавых прасторах сярод качэўнікаў меліся і ў перыяд, напрыклад, старажытнай Русі, захоўваліся да нядаўняга гістарычнага мінулага.

Пісьмовыя звесткі аб славянах маюцца ў старажытнарускім летапісу. На землях Беларусі іх тэрытарыяльныя аб'яднанні вядомы пад назвай крывічы (асобна выдзелены палачане), дрыгавічы, радзімічы. Сказана, што ва ўсіх іх была адзіная «славянская мова». На зямлі сучаснай Прыбалтыкі ў IX — XII ст. жылі куршы, земчалы, жэмайшы, скальвы, селы, яцвягі, аўктайты (літоўцы) і інш. Апошнія засялялі тэрыторыі ніжніх частак Нёмана, Заходняй Дзвіны, правабярэжжа Віслы і іншыя невялікія вадаёмы.

Прыкладна 6—3 тысячы гадоў таму назад індаеўрапейскія плямёны, якія складаліся з родаў і абшчын славянскай галіны, паступова засялілі лясныя прасторы басейнаў рэк Дняпра, Дона, Волгі, Нёмана, Заходняй Дзвіны і інш. Найбольш зручнымі цяпер сталі не «плямённыя», а абшчынна-радавыя грамадскія структуры, пачаўшыя асвойваць лясныя масівы для агародніцтва. Пэўныя водныя басейны еўрапейскага кантынента занялі раманцы, германцы, балты і іншыя. Для ўборкі ўраджаю пачалі выраблять крамянёвыя сярпы, якія былі выяўлены ў многіх мясцінах Беларусі.

У жалезным веку сярод абшчын і родаў розных галін індаеўрапейцаў узніклі свае індывідуальныя ўмацаваныя цэнтры. У Беларусі яны зараз вядомы як «Гарадзішчы», «Гарадкі» і інш. назвы сярод мясцовага насельніцтва. Па берагах вадаёмаў і на рознай адлегласці ад родавага цэнтра, на адкрытых паселішчах-селішчах пражывалі абшчыны. Памерশых тут хавалі па індаеўрапейскаму звычаю — крэмацыя. Так навакол «старажытных вёсак» узніклі спачатку безкурганныя пахаванні на некрапалях, а з сярэдзіны I тыс. н. э. па XIII ст. н. э. насыпаліся курганы. Іх захавалася ў нас вялікая колькасць. Самы вялікі курганны некрапаль у Беларусі вядомы ля Мохава на Лоеўшчыне, у ім было ў XIX стагоддзі звыш 600 насыпаў.

Археалагічныя даныя сведчаць, што кожная абшчына, род мелі свае старажытнаэт-

(Заканчэнне на 4-й стар.).

● *З публікацый даўнейшых і не вельмі*

# Найвялікшы з тых, хто ніколі не жыў

(Працяг. Пачатак у № 31)

**Першая з гэтых разгаданых Гілілавым кніг — «Ахвяра кахання», паэтычны зборнік нейкага Роберта Чэстэра, які ўключае і паэму Шэкспіра «Голуб і Фенікс». Таямнічы, загадкавы твор!**

**Хто гэтыя Голуб і Фенікс, чыя смерць аплакваецца ў паэме і зборніку? Іх шлюб, як пазнаецца з кнігі, быў незвычайным, дзіўным. То быў платанічны шлюб, заснаваны на блізкасці духоўнай, касмічнай адпаведнасці сутнасцей. Непаўната гэтага саюза вымушала пакутваць кабету, адсюль і назва — «Ахвяра кахання». Аднойчы яна нават пакінула мужа, чалавека, блізкага ёй настолькі, што** *ні час, ні агонь не маглі б з'яднаць гэткія надзвычайныя істоты.* **І ўсё ж яна зноў вярнулася да яго, каб больш ужо ніколі не разлучацца. Пасля смерці мужа яна добраахвотна паследавала за ім, даказаўшы, што ні жыццё, ні смерць не здольныя разбурыць іх чароўны саюз.**

**Бяздзетная гэтая пара пакінула пасля сябе нейкую** *Дасканаласць — не дзіця, не багацце, не мужчыну, не жанчыну, але эліксір чалавечай і боскай сутнасці, цуд свету, праслаўлены голас яго* **(падкрэслены словы з паэмы).**

**Хто ж была гэтая пара? Што нарадзіла яна ў сваім шлюбе, які не ведаў вуз плоці?**

**Захаваліся адно тры экзempляры гэтай унікальнай кнігі — чэстэраўскага зборніка. На ўсіх трох — розныя даты: 1601, 1611, на трэцім даты няма, думалі, яе зрэзаў няўмелы пераплётчык. Лічылася, што ўсё гэта розныя выданні адной кнігі. Першае, што давёў Гілілаў: усе тры экзэмпляры належаць аднаму выданню, адціснуты з агульнага набору. Доказ таму — сама папера, на якой кнігі надрукаваны. Ва ўсіх трох выпадках яна адна і тая ж, і мала таго — такой паперы няма больш ні ў адным выданні. Яна унікальная, як унікальны і адзін з яе вадзяных знакаў — аднарог, геральдычная фігура з герба Рэтлендаў. Чаму ж тады гэтыя розныя даты?**

**Адзіны адказ: блытаніна ў датах наўмысная. Адсутнасць даты на трэцім экзэмпляры — не прамашка пераплётчыка, а намер выдаўцы. Бо мэта яго — скрыць год выпуску кнігі, містыфікаваць, увесці ў зман чытача, захаваць тайну загадкавай пары, не даць пранікнуць у яе неазнаёмленым.**

**Дату Гілілаву ўдалося ўстанавіць, прааналізаваўшы змест зборніка: не раней лета 1612 года, не пазней лета 1613 года. Пасля гэтага ўжо можна было вызначыць, хто яны — Голуб і Фенікс. Гэта памёршыя ўлетку 1612 года, амаль адначасова Роджэр Мэнерс, граф Рэтленд (Роберт Чэстэр быў яго далёкім сваяком) і яго жонка Лізавета Мэнерс-Сідні, адзіны атожылак вялікага паэта Англіі Філіпа Сідні, горача любімага сучаснікамі, званага між сябрамі Феніксам.** *Дасканаласць,* **імі народжаная,** *цуд свету, праслаўлены голас ягоны* **і ёсць вялікі драматург Уільям Шэкспір.**

**Аляксандр ЛІПКОЎ.**

***(Заканчэнне будзе).***

*НАТХНЕННЕ*



## АЧЫШЧЭННЕ... ПА-СВІНСКУ

Аказваецца, свіння па сваіх імунных уласцівасцях найбольш блізкая да чалавека істота. Выкарыстоўваючы гэту асаблівасць жывёліны, маскоўскі прафесар Анатоль Цыпін упершыню ў свеце распрацаваў спосаб вылечвання хворых з дапамогай селязёнкі свінні.

Спачатку методыка была такая: сасуды пацыента далучалі да свежай свіной селязёнкі і прапускалі праз яе кроў хворага. Ачышчаная ад мікробаў і ўзбагачаная біялагічна актыўнымі рэчывамі, яна вярталася ў арганізм чалавека. Такім чынам адбываецца неспецыфічная стымуляцыя імунных сістэм арганізма, што рэзка павышае яго супраціўляльнасць да розных хвароб. Клінічныя выпрабаванні, якія праводзіліся ў Інстытуце хірургіі імя А. В. Вішнеўскага і Інстытуце рэўматалогіі РАМН, паказалі высокую эфектыўнасць новага метада: з яго дапамогай удаецца выратоўваць хворых з сепсісам (звычайна гіне да 80 працэнтаў пацыентаў), з дыябетычнай гангрэнай.

Зараз на аснове метада распрацоўваецца прэпарат са свіной пячонкі, які дае той жа эфект, але больш зручны і менш складаны для выкарыстання ў лячэбных установах.

## БАЮЧЫСЯ ПАДСЛУХОЎВАННЯ

Аўстралійская разведывацельная арганізацыя бяспекі (АСІО) аб'явіла аб поўнай замене ў сваіх службовых памяшканнях камп'ютэрнай і тэлефоннай сеткі, у якую, як сцвярджаецца, пранікла замежная разведка. Супрацоўнікі АСІО, баючыся падслухоўвання, вымушаны карыстацца тэлефонамі-аўтаматамі.

## КОНКУРСЫ

**Институт технической акустики АНБ объявляет конкурс на замещение вакантных должностей заведующих лабораториями:**

**— композиционных материалов;**

**— физики диэлектриков;**

**— пластичности и термообработки;**

**— ультразвуковой обработки.**

**Срок подачи документов на конкурс — 1 месяц со дня опубликования объявления.**

**Адрес института: 210717, г. Витебск, пр. Людникова, 13, тел. 4-39-53.**

**Калектыў выдавецтва «Навука і тэхніка» выказвае глыбокае спачуванне дырэктару выдавецтва Фадзею Ігнатавічу Савіцкаму з выпадку напаткаўшага яго гора — смерці МАЦІ.**

# ДЗЕ НАШЫ КАРАНІ?

*(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).*

награфічныя рэчы матэрыяльнай культуры, зробленыя мясцовымі абшчыннікамі ці суседзямі, атрыманыя ў выніку ўзаемаабмену.

Як жа ўсё-такі ўзнікла тэорыя «балцкага субстрата» ў фарміраванні беларусаў?

Пэўныя пастулаты аб гэтым пачалі выказвацца яшчэ да першай сусветнай вайны. Шмат увагі ёй пачалі ўдзяляць з 50-х гадоў, прычым, спецыялісты ўсіх гуманітарных навук. Так, адзін з эстонскіх акадэмікаў сцвярджаў, што тэрыторыя распаўсюджвання «рэчаў з эмаллю» сведчыць аб старажытных «землях балтаў». Па-першае, рэчы з эмаллю распаўсюджаны ва ўсёй Еўропе і нават за яе межамі, па сутнасці, дзе ў далёкай мінуўшчыне рассяляліся індаеўрапейцы. Па-другое, гэтыя вырабы звязаныя з пэўнымі храналагічнымі граніцамі і не этнавызначальныя рэчы, а толькі язычніцкія культавыя сімвалы, вырабы пэўных эмальерных і ліцейных спраў спецыялістаў былі ў абшчынах і родах. Па-трэцяе — сыравіна для вырабаў рэчаў з эмаллю — шкло, каляровыя металы, серабро, золата — у асноўным меліся ў Рымскай імперыі. Гэтыя крытэрыі даюць падставу лічыць, што яны не з'яўляліся «балцкімі этнічнымі вырабамі». Тым больш, што гэтыя вырабы рабіліся і непасрэдна ў рымскіх цэнтрах, і на месцах (беларускія, польскія, рускія, прыбалтыйскія і многія іншыя) на прывезенай з імперыі сыравіне. Добра вядома, што эмальернай справай у розныя часы займаліся таксама кельты, народы Каўказа, Егіпта, Сірыі і іншых земляў. Відавочна, «эмальерны аргумент балцкага субстрата» не вытрымлівае навуковай крытыкі.

І яшчэ адзін пастулат, які не даказаны, але мае вялікі ўплыў на фарміраванне ідэі «балцкага субстрата» — назвы вадаёмаў і населеных пунктаў, урочышчаў. Водную наменклатуру Беларусі ўмоўна можна раздзяліць на дзве вялікія катэгорыі: назвы рэк індаеўрапейскія і мясцовыя. Напрыклад, назва «Дунай» адносна шырока распаўсюджана ў Беларусі і за яе межамі. Да рэвалюцыі ў Магілёўскай губерні Дунаем называўся Днепр. Дунай маецца недалёка ад сучаснага Мінска, прыток ракі Менкі, дзе ўзнік летапісны Менеск. Віцебск таксама заснаваны ў месцы зліцця Дуная з Віцьбай і левабярэжнай часткай З. Дзвіны, некалькі невялікіх рэчак пад такой назвай вядомы ў басейне Нёмана. Гэта ж адносіцца да невялікіх рэчак пад назвай з коранем слоў «Вісла», «Нёман». Многія населеныя пункты звязаны з такімі назвамі. Аналагічныя тапонімы і гідронімы маюцца і на іншых землях. Што датычыць другой катэгорыі такіх назваў — рэчак, азёр, урочышчаў у наваколлях населеных пунктаў, то ўсе яны маюць сваю «мясцовую» наменклатуру, звязаную з пэўнымі падзеямі ў жыцці людзей. У некаторых з такіх назваў захаваліся індаеўрапейскія рысы, напрыклад, вядома ўрочышча «Дунай» на Браслаўшчыне.

Усё гэта ў пэўнай ступені таксама цесна звязана і з беларускімі народнымі гаворкамі, з назвамі расліннага і жывёльнага свету.

І хаця «крыніцазнаўчая база балцкага субстрата» ў навуковым сэнсе неабгрунтавана, «ідэя» без разумовага сэнсу, без канкрэтных фактаў і лагічнай пабудовы дамініруе ў тэарэтычных пастулатах гістарычных распрацовак. Так, напрыклад, у артыкуле «Балты» («Энцыклапедыя гісторыі Беларусі», 1993 г.) без навуковых доказаў сцвярджаецца, што адбылася славянізацыя «балцкага насельніцтва», «склаліся перадумовы станаўлення беларускай мовы і народнасці», і гэтыя працэсы адбываліся «ад рубяжа VII — VIII ст. да канца XIII ст. Сказанае мае дэкларатыўны характар.

Навуковыя недакладнасці, хібы мае вучэбны дапаможнік для вучняў 5—6 класаў «Гісторыя Беларусі», выдадзены ў мінулым годзе, такога ж характару навуковыя памылкі ёсць у шэрагу артыкулаў у зборніку пад назвай «Гісторыка-археалагічны зборнік», выдадзеным ужо ў гэтым годзе, сур'ёзныя заўвагі маюцца і да дапаможніка для вайскоўцаў «Гісторыя Беларусі».

Са сказанага вынікае, што да гістарычных заключэнняў неабходна адносіцца з вялікай грамадзянскай адказнасцю. Гуманітарныя навукі па свайму статусу такія дакладныя, як, напрыклад, і матэматыка. Нельга ствараць міфы аб гістарычным мінулым нашага народа. Ва ўсім павінна быць высокая навуковая кампетэнтнасць. Правераныя канкрэтныя факты, лагічныя заключэнні і здаровы сэнс заўсёды застаюцца «паветрам» гісторыкаў. Створаныя міфы не дапамагаюць у вырашэнні складаных пытанняў далёкай мінуўшчыны.

Я звяртаюся з прапановай і просьбай да кіраўніцтва Акадэміі навук, Аддзялення гуманітарных навук, Інстытута гісторыі запланаваць і фінансаваць у наступным годзе, магчыма, і крыху пазней, правядзенне ў Мінску VII міжнароднага кангрэса па праблемах гісторыі старажытных славян у рамках Міжнароднага Саюза Славянскай Археалогіі. Без малога тры дзесяцігоддзі, пачынаючы з 1965 года, раз у пяць гадоў у розных еўрапейскіх краінах было праведзена шэсць такіх кангрэсаў, а паміж імі — сімпозіумы. Прыйшоў час правесці такі кангрэс і ў Беларусі. Акадэміку АНБ Г. М. Лычу, члену-карэспандэнту М. П. Касцюку аўтарам уносіліся прапановы аб арганізацыі ў Аддзяленні гуманітарных навук альтэрнатыўнага семінара па пытаннях гісторыі Беларусі. Дапушчаныя ў Інстытуце гісторыі АНБ памылкі, аб якіх гаварыў на Агульным сходзе АНБ член-карэспандэнт П. Ц. Петрыкаў, могуць быць глыбока вывучаны ў гэтым семінары ў імя гістарычнай праўды.

**Л. ПОБАЛЬ,**
**член выканкома Міжнароднага Саюза Славянскай Археалогіі ад Беларусі, прафесар, доктар гістарычных навук.**

НА ЗДЫМКАХ: селішча Абідня на Быхаўшчыне II — V ст. н. э. Адзін з раскопаў, дзе выяўлены рэчы з эмаллю; тыгель, у якім плавіліся каляровыя металы для адліцця культавых вырабаў, у тым ліку рэчаў з эмаллю.



***«НАВІНЫ АКАДЭМІІ НАВУК БЕЛАРУСІ»***

**Штотыднёвая газета Акадэміі навук Беларусі**

**Рэдактар Аля Шымановіч**

Адрас рэдакцыі: 220072, г. Мінск, вул. Ф. Скарыны, 1, пакоі 309а, 309 б. Тэлефоны: рэдактара — 39-46-12, карэспандэнтаў — 39-54-51
Мінская фабрыка «Чырвоная зорка» МПВА імя Я. Коласа

Падпісана да друку 24.08.94 г.
Зак. 1044.
Тыраж 1000 экз.

Індэкс 64123